

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№68 (1085) 11 красавіка 1995 г. Аўторак. | Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. | Тыраж 533805 экз. | Кошт у розніцу — 450 руб.




## Вкратце

***В Чечне 44 дудаевских боевика в воскресенье взяты в плен и 5 опорных пунктов незаконных вооруженных формирований уничтожены. Кроме того, был освобожден населенный пункт Шаали-Юрт.***

Об этом сообщил начальник пресс-службы командования объединенных федеральных сил в Чечне полковник Владимир Комаров.

❑

***Премьер-министр Беларуси Михаил Чигирь считает, что к 9 мая Беларусь должна снять со своей стороны таможенный барьер на границе с Россией.***

Выступая в воскресенье по национальному телевидению, премьер отметил, что препятствием в разрешении данного вопроса служит лишь Верховный Совет, в котором мнения о белорусско- российском таможенном соглашении разделились.

❑

***Президент Беларуси Александр Лукашенко в ближайшее время подпишет указ, которым выведет из армии все коммерческие структуры, сообщил министр обороны страны Анатолий Костенко.***

По убеждению министра, армия должна выполнять только свои специфические обязанности по защите государства.

❑

***В Беларуси создан общественный оргкомитет по празднованию 50-летия окончания второй мировой войны. Возглавил его писатель Василь Быков.***

Комитет создан по инициативе Белорусского демократического объединения ветеранов, Белорусского народного фронта, Союза писателей Беларуси, Товарищества белорусского языка, Белорусской социал-демократической Громады.

❑

***Курс российского рубля по отношению к доллару США на торгах Московской межбанковской валютной биржи 10 апреля остался на прежнем уровне по сравнению с торгами в пятницу и составил 4972 рубля.***

## Рай и в шалаше?

***Начавшийся массовый приток молодежи в деревню, появление новых семей и дефицит средств на строительство жилья вынудили правление колхоза "Память Ленина" Кричевского района взяться за восстановление некогда заброшенных и заколоченных домов и избушек, которых в здешних деревнях не так и мало.***

"А тут еще большая беда на голову свалилась, — печалится председатель колхоза Николай Швархалев, — стало крайне разорительным центральное отопление. Представьте: один месяц работы котельной равен месячному фонду зарплаты всего коллектива". Вот и пошли ломать в типовых домах потолки и перекрытия, устраивая "буржуйки" с дымоходами — где через крышу, а где и через окно.

**Михаил ВЛАСЕНКО.**

## Тяжела ты, "шапка Мономаха"!

***Гнев рабочих, возмущенных невыдачей зарплаты, все чаще сосредоточивается на руководстве предприятий.***

Коллектив оршанской фирмы "Лёс" (бывшего радиоэлектронного завода "Красный Октябрь"), где уже три месяца людям ничего не платят, пригрозил Министерству промышленности, что, если оно не отстранит директора С.Закатова от должности, пикетчики не пустят его на территорию предприятия. Сторонниками столь жестких мер стали члены обоих профсоюзов — как свободного, так и отраслевого.

**Кузьма БЕЛЫЙ.**

## Вот и вырос Дима

***Давно ли, кажется, наша газета призывала всех, кто может, "скинуться" на билет до Америки для юного витебского музыканта Димы Морозова, приглашенного участвовать в международном конкурсе пианистов имени Дороси Андерсон.***

Сын заводского инженера и учительницы музыкальной школы не обманул ожиданий, привез из США золотую медаль. К званию лауреата, полученному в американском городе Сиэтле, Дмитрий успел прибавить второе место на еще более престижном международном королевском конкурсе в Барселоне.

**Сергей ДВИНСКИЙ.**

## Арестована группа "умельцев"

***Свято место пусто не бывает. И если уж вполне легальная промышленность Могилевской области за квартал уменьшила объемы производства по сравнению с январем—мартом прошлого года на 12 процентов, то "гуляющие" мощности начал потихоньку прибирать к рукам криминальный бизнес.***

Недавно арестована группа "умельцев", которая на заводе "Зенит" в Могилеве занималась нелегальным серийным производством огнестрельного оружия. Ее состав, заказчиков и иные подробности областное управление КГБ, которое проводит следствие, пока держит в строгом секрете.

**Николай ТОЛСТИК.**

## А если базы приватизируют?

***Сессией Гомельского областного Совета утверждена программа приватизации коммунальной собственности на 1995 год.***

Среди тех, кто попал в недавно обнародованный список, универсальные и оптово-розничные базы "Одеждаторг", "Трикотажторг", "Обувьторг", "Галантерея", "Культтовары" и "Хозтовары". Теперь многих волнует вопрос: можно ли будет после приватизации по-прежнему все "доставать" с базы?

**Леонид ВЛАДИМИРОВ.**

## Реквием жертвам Чернобыля

***Национальный художественный музей Беларуси представляет серию живописных работ народного художника СССР и Республики Беларусь, академика Михаила Савицкого под названием "Черная быль". Экспозиция цикла полотен, написанных в 1989 году и посвященных жертвам чернобыльской трагедии, приурочена к 9-й годовщине со дня аварии на атомной электростанции.***

Михаил Савицкий предлагает зрителю разделить испытания, выпавшие на долю героев картин, — пройти вместе с ними путь покинутых, изгнанных с родной земли и обреченных на смерть от последствий аварии.

"Чернобыльская мадонна" художника является кульминационной работой серии и олицетворяет нашу скорбь и неутихающую боль от ран зараженной чернобыльской зоны на территории Беларуси.

**Ирина КОЛОМЕНСКАЯ.**

## Шло дизтопливо в Карпаты, а попало в белорусское болото

***По причине естественного старения металла около деревни Ченки Гомельского района произошла утечка 300 тонн дизтоплива на подземном продуктопроводе Брянск — Прикарпатье.***

В реку Сож оно не попало, но хлопот доставило, так как для устранения аварии пришлось прокладывать дорогу по болотистой местности, что также потребовало материальных затрат.

**Татьяна ЗАГВОЗДКИНА.**

Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Интерфакс, Белинформ, РИД.



На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

# Чым болей у нас дыпламатаў, тым меней дэпутатаў

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

Усю першую палову панядзелка чакалі парламенцкія журналісты і іх шэфы ў выданнях сенсацыі пад назвай "Беларускі рэферэндум". Было відавочна, што сенсацыяй стане як адмоўнае, так і станоўчае рашэнне па лёсу рэферэндуму. Але да перапынку прадстаўнікоў СМІ чакала не сенсацыя, а расчараванне. У прапанаваным парадку дня, які налічваў больш як 30 пунктаў, пытанне аб рэферэндуме стаяла ў сярэдзіне спіса. Прэзідэнт абяцаў унесці і прадставіць да нашага разгляду змяненні ў прапанаваныя ім пытанні, але пакуль што ніякага дакумента на руках я не маю, растлумачыў Мечыслаў Грыб і прапанаваў пачынаць парламенцкі дзень з разгляду кадравага пытання. Праз гадзіну ў зале пачалі распаўсюджваць новы тэкст праекта пастановы па рэферэндуму, прапанаваны Прэзідэнтам, але, як запэўніў Уладзімір Леўчык, хутка прыняць рашэнне па ім усё роўна дэпутаты не змаглі б, бо закон патрабуе ўсебаковага абмеркавання кожнай фармулёўкі. Такім чынам, сенсацыя аб рэферэндуме на невядомы час адкладзена.


Фота Сяргея ГРЫЦА.

З інфармацыі, якая прагучала раніцай, адзначу наступнае. Як запэўніў Старшыня Вярхоўнага Савета, у аўторак у першай палове дня Прэзідыум Вярхоўнага Савета нарэшце разгледзіць сумна вядомае пытанне па "справе Сярэдзіча" і вынесе сваё меркаванне на суд дэпутатаў. Другая навіна заключаецца ў тым, што парламент не даў згоды на прыцягненне да судовай адказнасці дэпутата, рэдактара газеты "Свабода" Ігара Герменчука, супраць якога ўзбуджана справа па факту публікацыі ў "Свабодзе" паэмы, якая, як лічыць пракуратура, абражае Прэзідэнта. І трэцяя навіна — працяг дуэлі паміж Сяргеем Антончыкам і Іванам Ціцянковым. На гэты раз Сяргей Антончык звярнуў увагу на той факт, што Кіраўніцтва спраў Прэзідэнта выдзеліла памяшканне па вуліцы Савецкай, 11 (комплекс будынкаў Дома ўрада) недзяржаўнай арганізацыі "Беларускі фонд запаведнікаў", старшынёй савета якой, як сцвярджае С.Антончык, з'яўляецца... сам жа Іван Ціцянкоў. Цікава, што пачуем мы далей у адказ на гэты наступ. Што ж тычыцца Сяргея Антонавіча, то ён папярэдзіў, што на гэтым тыдні ў кожным "Розным" будуць гучаць "падарункі" Івану Іванавічу.

Але ж вернемся ў Авальную залу. Пасля гадзіны "кадравых" галасаванняў Вярхоўны Савет развітаўся з шэрагам дэпутатаў, якія далей будуць працаваць хто на дыпламатычнай ніве, хто выключна на адміністрацыйным фронце. Пасламі — Вячаслаў Кузняцоў у Кітаі, Міхаіл Грынёў у Малдове, Аляксандр Герасіменка ў Балгарыі. Без асаблівага жадання развітваліся з дэпутацкім мандатам толькі Васіль Далгалёў і Віктар Кучынскі, якія адстойвалі тое меркаванне, што іх датэрміновае адлучэнне ад парламента супярэчыць заканадаўству. Але ж Вярхоўны Савет прагаласаваў за спыненне іх паўнамоцтваў і развітаўся з імі, як мае быць, пад апладысменты і пажаданні поспехаў.

Потым дэпутаты настойліва працавалі над удакладненнем актаў, якія тычацца прыватызацыі, у выніку чаго тэрмін набыцця прыватызацыйных чэкаў у краіне падоўжыўся да 1 студзеня 1996 года, іх пагашэнне — да 2000 года, а перад абедзенным перапынкам узяліся за ўдасканаленне падаткаабкладання. У цэнтры ўвагі была праблема зняцця падатку на дадатковую вартасць, з чым, як вядома, не пагадзіўся Прэзідэнт. Сярод прамоўцаў асабліва вылучыліся Алег Трусаў, Уладзімір Сапронаў, Юрась Беленькі і Уладзімір Цялежнікаў, якія то яркімі прыкладамі, то тэарэтычнымі выкладкамі адстойвалі наступны тэзіс: падатак на дадатковую вартасць знішчае экспартны патэнцыял краіны, таму яго трэба тэрмінова адмяніць. Пасля абедзеннага перапынку ў Авальнай зале з'явіўся Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, і парламент зноў абмяркоўваў праблему рэферэндуму, прычым за аснову быў прыняты першапачатковы варыянт пастановы.

## У тактыку ўнесены карэктывы

"Аб палітычным становішчы на Беларусі і задачах Народнага фронту", "Аб перадвыбарнай эканамічнай платформе БНФ "Адраджэнне" — такія асноўныя тэмы дакладаў, што прагучалі на праведзеным у мінулыя выхадныя 4-м з'ездзе БНФ.

Перад удзельнікамі з'езда выступіў народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў. Паводле слоў лідэра БНФ Зянона Пазьняка, лозунгі "Галасуем за Беларусь!", "Незалежнасць. Дабрабыт. Мір", "Кансалідацыя на аснове дзяржаўнасці і незалежнасці", з якімі ішоў на парламенцкія выбары ў 1990 годзе БНФ, сталі яшчэ больш актуальнымі. Улічваючы вопыт папярэдніх выбарчых кампаній, сказаў ён, БНФ унёс пэўныя карэктывы ў тактыку перадвыбарнай барацьбы. Адметна, паводле яго слоў, тое, што нацыянальна-дэмакратычныя сілы выступаюць на гэты раз адзіным блокам.

**Ларыса КЛЮЧНІКАВА, Белінфарм.**

## Вайсковаму начальству закон не пісаны?

Нягледзячы на пастанову Вярхоўнага Савета і шэраг дакументаў Кабінета Міністраў, забараняючых ліквідацыю, перапродаж і перапрафіліраванне дзіцячых садкоў, Міністэрства абароны робіць усё па-свойму.

Нядаўна спадаром Кастэнкам падпісаны загад аб перадачы памяшкання дзіцячага садка №416 Міністэрства абароны ваеннаму шпіталю. Гаварыць аб мэтазгоднасці дадзенага рашэння можна было б тады, калі б дзіцячая ўстанова была пустой. Дык не ж. Садок наведваюць 140 дзетак. Тут не пустуе ніводнае месца. Ды і аб трыццаці супрацоўніках варта ўспомніць.

Але, выходзіць, начальнікам у пагонах закон не пісаны. Яны не зважаюць увагі ні на рашэнні Вярхоўнага Савета, ні на пажаданні бацькоў, ні на сваё сумленне.

**Віктар ХАРОШКА.**

## Рэферэндум: два пункты гледжання

Дэпутаты апазіцыі Беларускага народнага фронту ў Вярхоўным Савеце звярнуліся да выбаршчыкаў з заклікам выказаць свае адносіны да рэферэндуму, ініцыятарам якога выступіў Прэзідэнт. На думку дэпутатаў, такія мерапрыемствы "могуць толькі раскалоць і перасварыць наш народ, перашкодзіць нармальнаму ходу выбараў. Яны не палепшаць, а пагоршаць жыццё людзей".

❑

Савет Беларускага саюза афіцэраў звярнуўся з заявай да Прэзідэнта, Старшыні Вярхоўнага Савета, дэпутатаў, старшыні Канстытуцыйнага суда. У ёй адзначаецца, што Савет БСА "з вялікім задавальненнем сустрэў ініцыятыву Прэзідэнта аб правядзенні рэферэндуму па шэрагу актуальных пытанняў". Афіцэры запасу і ў адстаўцы лічаць мэтазгодным вынесці на ўсенароднае апытанне яшчэ два пытанні: аб забароне прыватнай уласнасці на зямлю і аб двайным грамадзянстве.

**Ларыса ЛАЗАР, Ларыса КЛЮЧНІКАВА, Белінфарм.**



НЕ ТОЛЬКІ ДЛЯ КАНДЫДАТАЎ У ДЭПУТАТЫ

# Газета і радыё — вялікая сіла

## Але ёю трэба ўмець карыстацца

***З 4 па 13 красавіка 1995 года ўключна кандыдаты ў дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь рэгіструюцца адпаведнай акруговай выбарчай камісіяй. Пасля рэгістрацыі наступае адзін з важных этапаў выбарчай кампаніі — перадвыбарная агітацыя.***

***На пытанні аглядальніка "Народнай газеты" адказвае старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Аляксандр АБРАМОВІЧ.***

**— Якія прынцыпы ляжаць у аснове правядзення перадвыбарнай агітацыі?**

— Кіраўнікі сродкаў масавай інфармацыі павінны прытрымлівацца двух галоўных прынцыпаў у асвятленні перадвыбарнай агітацыі за кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь:

— **свабоднага і ўсебаковага** абмеркавання выбарчых праграм кандыдатаў у дэпутаты, іх палітычных, дзелавых і асабістых якасцей;

— **роўнага права** кандыдатаў у дэпутаты на карыстанне сродкамі масавай інфармацыі.

Згодна з артыкулам 43 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь" грамадзянам Рэспублікі Беларусь, палітычным партыям, грамадскім аб'яднанням, працоўным калектывам, калектывам сярэдніх спецыяльных і вышэйшых навучальных устаноў, давераным асобам **прадастаўляецца права свабоднага і ўсебаковага абмеркавання выбарчых праграм кандыдатаў у дэпутаты, палітычных, дзелавых і асабістых якасцей кандыдатаў у дэпутаты, правядзення агітацыі за або супраць кандыдата ў дэпутаты ў друку, па тэлебачанні і радыё.**

Законам прадугледжана таксама, што "кандыдаты ў дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, палітычныя партыі, **арганізацыі** ветэранаў Рэспублікі Беларусь, Беларускае **таварыства** інвалідаў, Беларускае таварыства інвалідаў па зроку, Беларускае таварыства глухіх, калектывы, выбаршчыкі, якія вылучылі кандыдатаў у дэпутаты, на **роўных правах карыстаюцца дзяржаўнымі сродкамі масавай інфармацыі"** (артыкул 43[1]).

Сродкі масавай інфармацыі, адным з заснавальнікаў якіх выступаюць дзяржаўныя органы, арганізацыі, установы, а таксама сродкі масавай інфармацыі, што часткова фінансуюцца за кошт дзяржаўных сродкаў, **абавязаны забяспечыць роўныя магчымасці** для перадвыбарных выступленняў кандыдатаў у дэпутаты.

Але ніхто не можа забараніць з'яўленне той ці іншай інфармацыі пра кандыдата ў дэпутаты, бо Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь (артыкул 33) гарантуе грамадзянам рэспублікі свабоду думак, перакананняў і іх свабоднае выказванне.

Ды і журналісты маюць шэраг правоў у сувязі з ажыццяўленнем прафесійнага абавязку.

**Артыкул 39** Закона Рэспублікі Беларусь "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі" дае правы:

— збіраць, запытваць, атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю;

— выказваць свае асабістыя меркаванні і ацэнкі ў паведамленнях і матэрыялах, якія прызначаны для распаўсюджвання за яго подпісам.

Але інфармацыя, прадстаўляемая для публікацыі, павінна быць **аб'ектыўная,** не змяшчаць ілжывых звестак, што ганьбяць кандыдатаў у дэпутаты. У тым жа Законе аб друку (артыкул 5) адзначана, што "не дапускаецца выкарыстанне сродкаў масавай інфармацыі для пасягання на маральнасць, гонар і годнасць грамадзян".

**— Якімі сродкамі масавай інфармацыі могуць карыстацца кандыдаты ў дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь?**

— У адрозненне ад прэзідэнцкіх выбараў асноўная нагрузка на гэты раз будзе на мясцовыя сродкі масавай інфармацыі — гэта мясцовы друк і мясцовае дзяржаўнае радыёвяшчанне. Выкарыстанне рэспубліканскага тэлебачання кандыдатамі ў дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у Законе "Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь" не прадугледжана.

**— Як можа кандыдат у дэпутаты выкарыстоўваць мясцовы друк пры правядзенні агітацыйнай работы?**

— Згодна з артыкулам 43[1] Закона Рэспублікі Беларусь "Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь", кандыдат у дэпутаты мае права апублікаваць у **мясцовым** друку сваю перадвыбарную праграму, прадставіўшы тэкст указанага дакумента не пазней чым за 20 дзён да выбараў (гэта значыць да 23 красавіка 1995 года ўключна). Пры апублікаванні гэтых дакументаў захоўваецца чарговасць іх паступленняў. Пастановай ад 9 студзеня 1995 года Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў устанавіла аб'ём публікацый перадвыбарных праграм кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у мясцовым друку да 1,5 машынапіснай старонкі (42 радкі па 65 знакаў у кожным радку).

(Заканчэнне на 2-й стар.)

Народная Газета

ЕСТЬ ПРОБЛЕМА

## Живем и не помним?

Растет число белорусов, которых в Иерусалиме удостоили почетного звания "Праведник народов мира" (среди борисовчан таких уже трое). Им вручили грамоты и медали, в их честь высажены деревья и установлены мемориальные знаки.

За что им такие почести? А за то, что эти люди, **рискуя собственной жизнью**, в годину военного лихолетья протягивали руку помощи соотечественникам, обреченным на смерть от оголтелого геноцида.

Но разве не парадокс, что за спасение граждан Беларуси награждение производит иностранное государство? Получается, в нашей республике спасение еврея, как и в былые времена, подвигом считаться не может?

Задумаемся над этим вопросом. Ибо время неумолимо и здравствующих праведников остается все меньше и меньше. Государство, наверное, могло бы предоставить этим престарелым гражданам некоторые льготы, например в пенсионном обеспечении. Понятно, что эту проблему самое время решить в преддверии великого праздника — 50-летия Победы.

**Александр РОЗЕНБЛЮМ, заместитель председателя правления просветительного общества еврейской истории и культуры "Свет меноры".**
*г.Борисов.*

КРЫМІНАЛ

## Крывавае шоу ў начным бары

Цяжкім раненнем закончыўся для мясцовага жыхара вясёлы паход у начны бар гарпасёлка Лельчыцы.

Гульба ішла да чатырох раніцы і завяршылася сваркай, скандалам, бойкай і перастрэлкай. Наведвальнік, асоба якога пакуль не ўстаноўлена, у злосці выхапіў пісталет і ва ўпор расстраляў крыўдзіцеля — беспрацоўнага, раней судзімага.

## Не расстануся я з... іконай

Васьмікласнік з вёскі Гальшаны Ашмянскага раёна вяртаўся ў дзевяць вечара дамоў. У руках не падручнікі, а ікона. Яна і стала прычынай непрыемнасцей для юнака. На яго раптам напалі чацвёра хуліганаў — двое мясцовых беспрацоўных, навучэнец ПТВ і радавы тэрміновай службы, які знаходзіцца ў кароткачасовым водпуску. На наступны дзень маці пацярпеўшага заявіла ў міліцыю. Крыўдзіцеляў затрымалі, святую рэч вярнулі.

**Уладзімір СТРЭЛЬСКІ.**

# Газета і радыё — вялікая сіла

## Але ёю трэба ўмець карыстацца

**(Заканчэнне.**
**Пачатак на 1-й стар.)**

**— Якімі пастановамі рэгламентаваны выступленні кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па мясцовым радыёвяшчанні?**

— Зыходзячы з патрабаванняў часткі чацвёртай артыкула 43[1] Закона Рэспублікі Беларусь "Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь", кіраўніцтва Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь 3 студзеня 1995 года, а затым паўторна 7 сакавіка 1995 года прадставіла ў Цэнтральную камісію Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў ліміт часу для выступленняў кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па мясцовым дзяржаўным радыёвяшчанні, а менавіта па абласцях і г.Мінску па 25 мінут штодзённа, у тым ліку 10 мінут у прамежку з 6.40 да 7.00 раніцы і 15 мінут у прамежку з 18.00 да 19.00.

У адпаведнасці з часткай пятай артыкула 43[1] Закона Рэспублікі Беларусь "Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь" Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў пастанавіла, што кандыдаты ў дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь з часу іх рэгістрацыі маюць права на **адно** выступленне па мясцовым дзяржаўным радыёвяшчанні.

**— Які будзе парадак выступленняў кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета па мясцовым радыёвяшчанні?**

— Падставай для выступлення па мясцовым дзяржаўным радыёвяшчанні з'яўляецца пасведчанне кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і яго пісьмовая просьба да кіраўніцтва адпаведнага абласнога тэлерадыёаб'яднання, а ў горадзе Мінску і Мінскай вобласці — да Галоўнай рэдакцыі вяшчання на Мінск і Мінскую вобласць Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь, якая падаецца не пазней **чым за пяць дзён** да выступлення. Пры гэтым павінна забяспечвацца выступленне кандыдатаў у дэпутаты на роўных правах і захоўвацца чарговасць прадастаўлення часу вяшчання, зыходзячы з часу паступлення пісьмовых просьбаў кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**— Якія сродкі можа выкарыстоўваць кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь пры правядзенні перадвыбарнай агітацыі?**

— Згодна з каштарысна-фінансавым разлікам расходаў, на кожнага кандыдата выдзелена 600.000 рублёў на правядзенне перадвыбарнай агітацыі (выданне плакатаў з біяграфічнымі данымі, арэнда памяшкання для сустрэч з выбаршчыкамі і інш.).

Дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі **бясплатна** абнародуюць перадвыбарныя праграмы кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

У адпаведнасці з указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь "Аб забеспячэнні роўных магчымасцей грамадзянам пры падрыхтоўцы і правядзенні выбараў дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь" артыкулам 12 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь" забараняецца якінебудзь прамы або ўскосны ўдзел палітычных партый, грамадскіх аб'яднанняў, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і грамадзян Рэспублікі Беларусь, а таксама замежных арганізацый і замежных грамадзян у фінансаванні і іншай матэрыяльнай дапамозе выбарчай кампаніі кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**— Практыка правядзення выбараў дае падставы сцвярджаць, што ў ходзе выбарчай кампаніі многія кандыдаты ў дэпутаты, выкарыстоўваючы сваё службовае становішча, статус дэпутата ці кіраўніка высокага рангу, маюць больш шансаў з'явіцца на экране тэлевізара, у эфіры на радыё, на старонках газет, часопісаў ці за грошы купіць эфірны час на недзяржаўных тэлеканалах. Дзе ж тут роўныя магчымасці? Ці будзе гэта парушэннем Закона Рэспублікі Беларусь "Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь?"**

— Згодна з часткай першай артыкула 44 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь", кандыдат у дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь пасля рэгістрацыі на час правядзення сустрэч з выбаршчыкамі, выступленняў на перадвыбарных сходах, мітынгах, па радыё вызваляецца ад выканання вытворчых або службовых абавязкаў з захаваннем сярэдняй заработнай платы за кошт сродкаў, якія выдзяляюцца на правядзенне выбараў.

Таму нельга спасылацца на вытворчую неабходнасць, выкарыстоўваючы сродкі масавай інфармацыі звыш норм, устаноўленых Законам Рэспублікі Беларусь "Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь". Усе кандыдаты ў дэпутаты павінны мець роўныя магчымасці для правядзення перадвыбарнай агітацыі.

**— У якіх выпадках і якая адказнасць прадугледжваецца за парушэнне Закона Рэспублікі Беларусь "Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь", што тычыцца выкарыстання сродкаў масавай інфармацыі?**

— 1. Калі дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі, а таксама сродкі масавай інфармацыі, што часткова фінансуюцца за кошт дзяржаўных сродкаў, парушылі прынцып забеспячэння роўнага права кандыдатаў у дэпутаты выступаць у друку, на тэлебачанні і радыё. Парушэнне гэтага права можа быць абскарджана ў Цэнтральную камісію Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў (частка першая артыкула 40).

2. Да адказнасці могуць прыцягвацца асобы, якія апублікавалі або іншым спосабам распаўсюдзілі лжывыя звесткі, што ганьбяць кандыдата ў дэпутаты, публічна заклікалі да байкоту выбараў (частка першая артыкула 13).

3. Калі ў фінансаванні ці іншай матэрыяльнай дапамозе кандыдатаў прымалі прамы або ўскосны ўдзел палітычныя партыі, грамадскія аб'яднанні, прадпрыемствы, установы, арганізацыі і грамадзяне Рэспублікі Беларусь, а таксама замежныя арганізацыі і замежныя грамадзяне (частка восьмая артыкула 12).

У гэтых выпадках можа стаць пытанне і аб зняцці з рэгістрацыі таго ці іншага кандыдата.

Трэба адзначыць, што Вярхоўны Савет 30 сакавіка 1994 года прыняў змяненні ў артыкул 167[3] Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях, дзе адзначаецца, што за парушэнні заканадаўства аб выбарах, за якія не прадугледжана крымінальная адказнасць, можа накладвацца штраф у размеры да 10 мінімальных заработных плат або папраўчыя работы на тэрмін да 2 месяцаў з утрыманнем 20% заробку.

**— Практыка паказала, што пры правядзенні агітацыйнай работы кандыдатамі ў прэзідэнты Рэспублікі Беларусь былі зафіксаваны прыклады парушэнняў Закона Рэспублікі Беларусь "Аб выбарах Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь". Але па прычыне недасканаласці закона прыцягнуць да адказнасці было цяжка.**

**Ці ўлічаны гэтыя акалічнасці ў Законе Рэспублікі Беларусь "Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь?"**

— Лічу, што ў артыкуле 43 "Перадвыбарная агітацыя" Закона Рэспублікі Беларусь "Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь" маюцца пэўныя недапрацоўкі. Ёсць неабходнасць больш шырока раскрыць паняцце "перадвыбарная агітацыя", асабліва адзін з яе відаў — "палітычная рэклама". Бо кандыдат у дэпутаты ў перыяд перадвыбарнай кампаніі карыстаецца амаль усімі формамі палітычнай рэкламы.

Шкада, што ў Законе Рэспублікі Беларусь "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі" не прадугледжаны агульныя правілы распаўсюджвання рэкламы, і асабіста палітычнай рэкламы.

Напрыклад, у Расіі падчас правядзення выбараў у Дзяржаўную думу быў распрацаваны шэраг спецыяльных нарматыўных актаў па гэтым пытанні. Сярод іх Палажэнне аб інфармацыйных гарантыях перадвыбарнай агітацыі. У нас, на жаль, гэтага няма.

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# 13-ы візіт Ханса Мёрса,

## або Як Стары Свержань парадніўся з Хатынгенам

**Віктар ЧАРНУШЭНКА**

Што ні кажыце, а лічба 13 часта нясе розныя непрыемнасці. Вось і ў дзень вылету разыгралася непагадзь. Аэрапорт Мюнхена быў закрыты, прыйшлося вяртацца ў Дортмунд. З другога заходу ўжо над "Мінскам-2" узнікла непаладка з шасі. Паветраная машына авіякампаніі "Люфтганза" павярнула на Берлін.

З такіх вось прыгод пачыналася 13-я вандроўка ў Беларусь вядомага нямецкага дабрачынца Ханса Мёрса. 34 гадзіны ў дарозе — гэта яго асабісты рэкорд.

Але трэба ведаць Мёрса! Выматаны пералётам ужо не малады чалавек, ніколі не засмучаны рамантык і дабрэйшай душы чалавек усё спісаў на лічбу 13. І нават калі грузавік з гуманітарнай дапамогай прыбыў у Мінск не праз 2 дні, як звычайна, а праз тыдзень, не страціў настрой. Сам 10 гадзін запар правёў у кабіне "фуры", пакуль не растаможыў груз.

І вось — шчаслівае імгненне! - сустрэча ў Старым Свержані. Яго тут ўсе добра ведаюць і вельмі паважаюць.

Ёсць людзі, якія нарадзіліся рабіць дабро іншым. У яго сям'і шмат хвароб, жонка перанесла аперацыю злаякаснай пухліны... І Хансу добра вядомыя чалавечы боль, нястача. Але асабліва ён прывязаны да дзяцей. Для іх ён гатоў аддаць усё да апошняга. Калі даведаўся пра Чарнобыль, праблемы аховы здароўя беларускіх дзяцей, скіраваў сюды ўсе свае намаганні.

Ужо некалькі гадоў у сваім гарадку Хатынген Ханс Мёрс узначальвае дабрачынную арганізацыю "Дапамога пацярпеўшым дзецям". Пачынаў з шэфства над 2-й дзіцячай клінікай Мінска. Знаходзіў дэфіцытныя лекі, медыцынскае абсталяванне, збіраў дзецям вітаміны і цацкі — усё гэта прывозіў асабіста сам і клапаціўся, каб выкарыстоўвалася па прызначэнню.

Ягоным каардынатарам праграмы ў Беларусі стаў мінскі доктар Уладзімір Вайтовіч. Мёрс узяў шэфства над спецыялізаваным дзіцячым садком у Серабранцы. Па выпісаных рэцэптах прывозіць з Германіі гатовыя акуляры са складанай оптыкай. Па сціплых падліках, Мёрс ужо прывёз больш за 1,5 тысячы акуляраў.

Па меры магчымасці дапамагае тым, каму тэрмінова патрэбна аперацыя ў лепшых клініках Германіі. Грошы для гэтага збірае ўвесь царкоўны прыход Хатынгена, людзі з усёй акругі. І робіцца ўсё гэта ад шчырага сэрца, ад Бога.

Усю сваю дабрачынную дзейнасць Мёрс будуе на асабістых кантактах. Ён валодае рэдкай асаблівасцю распазнаваць характар людзей. Калі доктар Вайтовіч пазнаёміў яго з маладой сям'ёй Катлашэўскіх са Старога Свержаня, што пад Стоўбцамі, Ханс адразу вызначыў: гэтыя людзі маюць прызванне тварыць дабро. Зінаіда Катлашэўская, якая працуе на пошце і ўзначальвае бацькоўскі савет Старасвержаньскай школы, стала даверанай асобай Ханса Мёрса, яго дабрачыннай місіі.

Днямі, падчас свайго 13-га візіту, ён прывёз у вёску вялікі груз гуманітарнай дапамогі: найперш для патрэб школы, дзяцей. Частка грузу была накіравана адсюль у Петрыкаўскі раён — у Капаткевіцкую школу-інтэрнат, якой таксама дапамагае нямецкі дабрачынны фонд.

Каб сказаць некалькі добрых слоў у адрас сваіх паплечнікаў, Мёрс пазваніў у "Народную газету". Мы гаварылі з ім на ламаным беларуска-нямецкім. Адчувалася, што Ханс душой прыкіпеў да Беларусі, што дабрачыннасць — гэта яго прызванне.

Потым я пабываў у Старым Свержані. Дарэчы, мясцовая школа — адна са старэйшых у нашай краіне, гэтай восенню адзначыць сваё 130-годдзе. Маё першае пытанне дырэктару школы Казіміру Сідаровічу было некалькі "правакацыйным":

— Не крыўдуйце, але ці не сапсуе такая дапамога дзяцей?..

— Мы думалі пра гэта. Усе сумненні адпалі пасля знаёмства з Мёрсам. Магу сказаць, што Стары Свержань парадніўся з Хатынгенам. Вясковыя людзі вельмі кемлівыя, адчуваюць, хто чым дыхае. Многія завязалі перапіску, адправілі ў нямецкія сем'і свае падарункі. Фонд Мёрса ўзяўся дапамагчы нам адрамантаваць школу, прыдбаць самае неабходнае для класаў...

Дырэктара дапаўняе Зінаіда Катлашэўская:

— Ханс Мёрс прывёз гэтым разам усё медыцынскае абсталяванне для новага вясковага ФАПа, бо стары нядаўна згарэў. Прывёз і дзіцячыя інвалідныя каляскі, падарункі дзецям-сіротам, а таксама мнагадзетным маці са Стоўбцаў. Мы разам склалі спісы тых, хто мае патрэбу ў лякарствах. Ханс сам абышоў многія хаты ў Старым Свержані, быў у суседніх вёсках, пазнаёміўся з людзьмі, расказаў пра работу нямецкага дабрачыннага фонду.

Мір трымаецца на дабрыні. А для яе няма ніякіх межаў.

Такого еще не было!

# Порнографию не замаскируешь голубой обложкой с розовым бантиком

Порнография — это опасная и серьезная болезнь, ею переболели книжный и прочие рынки разных стран. Интерес к такого рода поделкам уже утихает в России. А на нашем скромном рынке появилась новинка дурного, порнографического тона.

Книги, о которых пойдет речь, не библиографическая редкость. Скорее наоборот. Издательство "Парадокс" и его глава г.Шарпило (бывший партработник и журналист) позаботились о тираже в 250 000 экземпляров и о регулярности выхода каждой из них, объединенных в большую серию "Презент".

Но не торопитесь нести ее домой, тем более показывать своим близким. Потому что под яркой голубой обложкой с розовым бантом скрыта откровенная порнография, безо всякого намека на юмор, духовность и лирику. Незатейливый сюжет, персонажи без имени, узнаваемые лишь по половым признакам, — он, она — все это скорее напоминает сцены из жизни развратных млекопитающих.

Не исключено, что такие книги тоже кому-то интересны, а коль есть спрос — вот вам и предложение. С бантиком или без него. Проблема состоит в бесконтрольности и отсутствии общественного мнения относительно такой продукции. На первый взгляд, формально признаки контроля имеют место: есть регламентирующие документы, есть ведомство, оценивающее степень пристойности издания. Почему же так свободно и широко течет поток пошлых книг и газетно-журнальной периодики, адресованной массовому читателю?

Благотворительный фонд поддержки просвещения вынужден высказать опасения: нужны ли эти книги нашим детям, ведь они до смешного доступны? Да и каждый взрослый человек с устоявшимися взглядами на нашу общественную жизнь и столь оберегаемую и уважаемую теперь частную должен наконец ответить на вопрос: ведут ли такие книги к высокой духовности и самосознанию, о которых на словах так пекутся господа издатели? Или уводят от нее в болото аморальности? Мы выбираем правовое государство или нескончаемую хронику криминальных сообщений, что неизбежно при нулевом уровне нравственности?

Каждый читатель, даже если он не культуролог, не учитель, не психолог и не медик, может иметь свое мнение как отец, как мать, бабушка и дедушка.

Интересно, г. Шарпило **своим** детям тоже предлагает **свои** книги или только нашим?

Благотворительный фонд поддержки просвещения просит считать это письмо общественным иском к издательству "Парадокс", просит депутатов, настоящих и будущих, журналистов, руководителей Министерства культуры и печати приостановить выпуск книг порнографического толка.

**Фонд поддержки просвещения.**

Закон бессилен?

# Дворцы с видом на море — только для депутатов, банкиров и директоров...

**Виктор ЗАГРАДСКИЙ**

Начну с объявления в солидной газете "Известия", которое поразило меня цинизмом и наглостью.

"Господа!

Продается коттедж на Вяче. Место — лучше не бывает. Асфальт — до самого порога. Пляж — 300 метров. Все коммуникации. Школа. Детсад. Магазин. Бассейн, сауна. Гараж в доме. 5 уровней. 300 кв. м. Участок 0,2 га".

В конце объявления был указан минский телефон.

Набираю номер. Спрашиваю, сколько стоит этот дворец?.. Не буду испытывать нервы простых граждан. Не хочу "отыгрываться" на том, кто продает такой домище. Смог построить — завидуйте, давитесь от злости!

Меня лично больше волнует не то, на какие сумасшедшие деньги отгрохан этот терем в пять уровней. Подобных грандиозных сооружений хоть пруд пруди вокруг минской кольцевой. Все газеты пестрят объявлениями: продается недвижимость — под ключ и недостроенная, на любой вкус. Пусть те, кому положено, следят за кем надо. В рамках закона.

Меня волнует другое: кто позволил некому господину К. поселиться почти на берегу озера, в природоохранной зоне? Да и один ли он там? Выходит, у кого больше власти, влияния и "зеленых" в кармане, тому можно все! Завтра какой-нибудь наглец отгрохает себе плавучий дворец на Минском море или коттедж посреди Ботанического сада.

Ладно, хватит эмоций. Зачем сжигать нервные клетки. Перейдем к конкретным фактам и документам. Благо они уже появились: по требованию антикоррупционного комитета Администрации Президента правоохранительные органы завершили проверку исполнения природоохранного и земельного законодательства при выделении участков под индивидуальное жилищное строительство в Минском районе. Точнее сказать — в пригороде столицы. Собраны два увесистых тома разных бумаг. Опрошены с полтысячи застройщиков. Затребованы выписки из решений, постановлений и прочих "указивок". Надо отдать должное прокурорским работникам за кропотливый, но, увы... сизифов труд. Криминала, как и следовало ожидать, не выявлено. У нас стало уже чуть ли не традицией в подобных случаях списывать все на "несовершенство законодательства". Хотя, по большому счету, так оно и есть. Вопрос в другом: не способны или не хотим писать нормальные законы?



Вот некоторые выдержки из заключения минского межрайонного природоохранного прокурора Василия Демидовича, которые я привожу своими словами, дабы избежать сухости юридических штампов. Из него следует, что:

до последнего времени в контролирующие органы, прокуратуру не поступали материалы о каких-либо серьезных нарушениях законодательства, ни застройщики, ни должностные лица к административной ответственности не привлекались (!?). Следовательно, оснований для возбуждения уголовных дел нет.

В то же время отмечается, что нарушения земельного и природоохранного законодательства носят массовый характер (!?):

начиная с 1991 года идет фактически массовый крадеж земель сельхозпредприятий, потому что многие участки в установленном законом порядке Советам не отводились;

последние, превышая свои полномочия, изменяли целевое назначение пахотных земель;

под застройку попали водоохранные зоны, прибрежные полосы водоемов...

Прокурор также констатирует, что допущено открытое нарушение постановления правительства о порядке государственной экспертизы проектно-сметной документации, законов об охране окружающей среды и об экологической экспертизе. Зачем же кивать на "правовое несовершенство"? Сами же чиновники положили под сукно постановление Совета Министров БССР от 15 октября 1982 г. за N 316, где черным по белому написано: населенные пункты, расположенные в зонах отдыха, не подлежат дальнейшему развитию, т.е. новой застройке. Но на деле шло по-другому. И все сходило с рук. О проекте планировки пригородной и зеленой зон столицы предпочитали умалчивать.

Хороших мест на всех не наберешься. В сутолоке забыли об элементарной очереди, учете заявлений граждан и т.д. Коттеджный бум, как золотая лихорадка, охватил толстосумов. Не успев получить выписку из решения исполкома о выделении вожделенного участка, они, как кроты, быстро зарывались в землю, возносили высокие стены, ставили кирпичные заборы. Отгораживались от закона и любопытных глаз. Без геодезической привязки участков и точного расчета площадей, налоговых платежей и прочих необходимых определенных законом вещей. Местные Советы, землеустроительные органы, экологическая служба фактически самоустранились от контроля за использованием земли. А в мутной воде всегда легче ловить крупную рыбу.

❑

Не сказать, чтобы в "верхах" не знали, что творится под боком у столицы. Тот же Комитет по земельной реформе и землеустройству при правительстве, словно очнувшись от спячки, подготовил грозный циркуляр: хватит строить без планов и проектов! Особенно в населенных пунктах Ждановичи, Ратомка, Раубичи, Лапоровичи, Петришки, Семково, Цна... расположенных в прибрежных полосах и водоохранных зонах рек, водоемов и Вилейско-Минского канала, да еще без канализации и прочих специальных инженерных сооружений.

Любопытные факты есть в материалах прокурорской проверки. Установлено, например, что в деревне Цна план застройки первой очереди (156 участков) и второй (191) "сделан с нарушением природоохранного законодательства". Проще говоря, залезли в прибрежную полосу водохранилища.

Съездите на Дубровское водохранилище. Там, в прибрежной полосе, не весть откуда, как грибы, растут четыре дома. Удивляются даже те, кто составлял списки застройщиков: последние четыре фамилии попали в них каким-то "невероятным" образом.

В Петришковском сельсовете пишут свои "законы" — выделяют участки из фонда земель совхоза "Заславский". И это незаконное решение без тени сомнения подписывает главный архитектор. До получения основного документа — госакта на право владения земельным участком — служба архитектора выдает паспорт застройщика(?). Тоже нечистое дело.

❑

Посмотрим списки тех владельцев участков и коттеджей, кто проходил проверку. Большинство из них, естественно, не простые грешные. Запомнились те фамилии, которые на слуху. Но разве виноват господин Иванов в том, что ему выделили участок? У прокуратуры тоже нет к нему претензий. И ведь не конфискуешь дом с видом на море? Право собственности! И с тех, кто принимал такие решения, — как с гуся вода.

К примеру, в деревне Лапоровичи Папернянского сельсовета участки выделялись с массой различных нарушений: без проекта и согласований, необходимых подписей, в охранной зоне Заславского водохранилища. 25 человек в этом списке. Мне запомнилась одна фамилия: Е.М.Бочаров. Интересно, что в графе "Место жительства, работы" стоял прочерк. Может быть, это генерал-депутат, который недавно от имени парламентской комиссии заявил, что многие обвинения в докладе Антончика в адрес высших должностных лиц "имели под собой почву"? А может, и нет. Поди догадайся... Кстати, таких фигур в списках более десятка. Резиденты, что ли? И как это прокуратура не смогла добыть эти сведения?

В населенном пункте Семково прописался В.В.Радкевич. Его адресные сведения тоже отсутствуют. Среди прочих законспирированных — некто В.А.Саприкин, В.Е.Шатохин, Сафонов, Бабий, Караневич...

В прибрежной зоне Цнянского водохранилища строится И.Б.Зеленкевич, в Вяче-Островшицкой — А.П.Хандогин, Б.П.Савицкий, В.Н.Рыженков, Д.А.Сивицкий.

Этим сказано только то, что сказано: в списках я не нашел ни слесаря Ударникова, ни многодетную семью Бесхлебных. Зато узнал "рейтинг" других особ. Больше всего насчитал работников банковской системы и руководителей различных строительных организаций, далее идут директора и замы СП, МП, ООО и т.д., им чуть уступают по количеству врачи, затем — таможенники, работники правоохранительных органов, владельцы торговых точек и т.п.

Весь шум-гам вокруг строительства коттеджей в запретных зонах не стоит выеденного яйца. Все накачки сверху — это показуха, ибо что толку, если все осталось, как было. Есть такое обтекаемое слово — "предписание". Председатель Минского областного комитета по экологии Мария Худая любит давать предписания разным нарушителям природной среды. На большее зачастую не хватает сил. Как отмечено в справке, приобщенной к материалам проверки, за минувший год было составлено всего лишь 47 протоколов и предъявлено два иска к строительным организациям. И все!..

Коллегия Минприроды разразилась таким наказанием виновных. М.Худой указали, начальнику райинспекции по экологии А.Макаревичу объявили выговор и выступили с ходатайством к властям каким-то образом повлиять на главного районного землеустроителя Н.Батенко и главного архитектора М.Василечко.

"Борзеют", извините за грубость, не только индивидуальные застройщики. После того, как вблизи Вилейско-Минского канала были закрыты нефтезаправочный пункт и ремонтные мастерские совхоза "Заславский", старые помещения хозяйство продало МП "Инициатива". Кооператоры организовали здесь производство стройматериалов и покраску авто. Петришковский сельсовет поспешил выделить МП 1,4 га земли. Но пришлось отменить незаконное решение.

Профсоюзные активисты — работники автотранспорта и дорожного хозяйства — не дураки попариться в баньке. Да еще окунуться в естественный бассейн. Долго не думая, поставили сруб, где бы вы думали? На берегу Заславского водохранилища! Так им захотелось — и все тут! Здесь же, почти на пляже, переданное Минским водоканалом в пользование кооперативу "Вира" здание КМС превращено в мусорную свалку...

А сколько деревьев, зеленых газонов уничтожили экологические разбойники, прорываясь к большой воде?..

Откровенно говоря, после прочтения всех материалов проверки мне стало очень горько и обидно. За безысходность положения. За то, что никто не будет наказан за "зеленый погром", громадный ущерб. Это понимают и открыто о том говорят сами работники областной прокуратуры. В лучшем случае кто-то заплатит смехотворный штраф, кого-то одного снимут с работы. Помните нашумевшую историю с председателем Боровлянского сельсовета? Возбудили даже уголовное дело, а потом закрыли... за отсутствием состава преступления. Видите ли, государству не нанесено материального ущерба в крупных размерах... Страна чудес!

Прокуратура сделала то, что смогла. Добросовестно допросила (побеседовала) со всеми застройщиками: министром, депутатом, следователем по особо важным делам... На том и разошлись с миром. Спокойно чувствуют себя и хозяева заветных территорий: пожурят да и забудут. Не впервой. Все же люди, понимают...

Опять же — весна на дворе, у новых начальников, влиятельных, богатых особ проблемы с участками... Так что скорее вода в канале потечет в другую сторону, чем что-то изменится в этом деле.

